Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 960.
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 18 снежня 1998 г. № 137 (529) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Сустрэліся саюзнікі

**Ацэньваючы вынікі візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву, расійская «Независимая газета» лічыць, што беларускі прэзідэнт дасягнуў сваёй галоўнай мэты: нарэшце сустрэўся з Барысам Ельцыным.**

Два прэзідэнты саюзных краінаў не сустракаліся ўжо больш года, што не характэрна для саюзнікаў, адзначае газета. Абсалютна відавочна, піша «НГ», што ў Саюзе дзвюх краінаў зараз назіраецца перыяд застою. І гэта не можа не хваляваць як беларускага прэзідэнта, так і тыя дастаткова вялікія і ўплывовыя сілы ў Расіі, якія выступаюць за паглыбленне аднасінаў. *«Альбо мы займаемся балбатнёй наконт нейкага аморфнага саюзу, альбо мы сапраўды робім капітальныя крокі ў накірунку аб'яднання нашых народаў, што прынясе каласальны поспех для дзвюх краінаў»,* — заявіў Лукашэнка.

Аднак, нягледзячы на тое, што новыя ўлады Расіі вельмі станоўча ставяцца да ідэі далейшай інтэграцыі, у бліжэйшы час наўрад ці трэба чакаць сапраўды кардынальных крокаў, зазначае газета. І перш за ўсё таму, што кіраўніцтва Расіі зараз не мае ніякіх магчымасцяў для рэзкіх рухаў у любым накірунку.

*Падрыхтаваў*
**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Прэзідэнцкі парламент папоўніўся двума дэпутатамі

16 снежня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі прыняла пастанову аб уключэнні ў свой склад дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання Уладзіміра Волкава — дырэктара Мінскага завода колавых цягачоў і дырэктара саўгаса «Заказельскі» Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці Мікалая Якаўчыка. Такім чынам, дэпутаты запоўнілі ў ніжняй палаце дзве вакансіі, якія вызваліліся пасля забойства Яўгена Мікалуцкага і смерці Мікалая Шыманскага. На гэтыя вакансіі прэтэндавалі каля 40 дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

*БелаПАН*

## Краіны Балтыі ў Шэнгенскай зоне

**Шэнгенскае пагадненне з будучага года будзе распаўсюджвацца і на тры краіны Балтыі.**

З 1 сакавіка для грамадзянаў Эстоніі, Літвы і Латвіі ўводзіцца бязвізавы рэжым для паездак у 9 еўрапейскіх краінаў, якія ўваходзяць у Шэнгенскую прастору. Такое рашэнне было прынятае ў Берліне на пасяджэнні Выканкама гэтага аб'яднання дзяржаў. Грамадзяне краінаў Шэнгенскай групы і Балтыі змогуць адпраўляцца ў бязвізавыя паездкі па замежным пашпарце тэрмінам на тры месяцы.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

# Вертыкальшчык папаўся на хабары

**У Мінску арыштавалі высокапастаўленага чыноўніка — намесніка кіраўніка адміністрацыі Фрунзенскага раёна сталіцы Анатоля Комсу. Міліцыянты знайшлі ў яго 400 долараў з паметкай «хабар».**

Арышт вертыкальшчыка адбыўся ў ягоным службовым кабінеце. Аперацыя была разыграная як па нотах. Спачатку да намесніка кіраўніка адміністрацыі зайшоў наведвальнік і перадаў канверт, у якім знаходзілася 400 долараў — узнагарода за спрыянне ў бізнесе. Але як толькі начальнік паклаў грошы ў кішэню, у кабінет уварваліся аператыўнікі. Далейшае было справай тэхнікі: сведкі, пратакол, і ўжо праз палову гадзіны затрыманага выводзілі з адміністрацыі.

Анатоль Комса, якому 43 гады, курыраваў пытанні гандлю і прадпрымальніцтва. У адміністрацыі Фрунзенскага раёна ён не першы год: раней працаваў загадчыкам аддзела, потым перайшоў у Савет міністраў, адкуль два гады таму вярнуўся назад — на пасаду намесніка кіраўніка адміністрацыі. Калегі называюць Анатоля Комсу добрым спецыялістам і выказваюць здзіўленне, што такое магло з ім адбыцца. Аднак асаблівa на гэтую тэму ў адміністрацыі не распаўсюджваюцца, а журналістаў за любой інфармацыяй адносна арыштаванага адсылаюць непасрэдна да кіраўніка адміністрацыі раёна.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Смерць у чарзе па яйкі

**У Гродне памерла ў чарзе па яйкі пажылая жанчына. Гэта адбылося ў аўторак у краме «Птушка» мясцовай птушкафабрыкі.**

У той дзень прадаваліся яйкі па 52.800 рублёў і па 47.500. У адныя рукі давалі па два дзесяткі. Чарга з дзвярэй крамы расцягнулася на вуліцы, у ёй было мінімум чалавек 70. Жанчыне, якая стаяла ў канцы, раптам стала кепска. Іншыя спрабавалі ёй дапамагчы, рабілі штучнае дыханне. Аднак уратаваць яе не ўдалося. Да прыезду хуткай дапамогі яна памёрла. Пры ёй не было дакументаў, і таму нябожчыца паступіла ў морг як невядомая.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**



# Лукашэнка пра Ірак

*Заява прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*

**НАНЯСЕННЕ** Злучанымі Штатамі Амерыкі і Вялікабрытаніяй 17 снежня 1998 года ракетна-бомбавых удараў па Іраку з'яўляецца парушэннем Статута ААН і далёка выходзіць за межы рэзалюцыяў, прынятых Саветам Бяспекі ААН па іракскім пытанні.

Рэспубліка Беларусь лічыць непрымальнымі дзеянні дзяржаваў альбо іх кааліцыяў у абход Савета Бяспекі ААН, які нясе галоўную адказнасць і выконвае цэнтральную ролю ў падтрыманні міжнароднага міру і бяспекі.

Выкарыстанне сілы міжнародным супольніцтвам з'яўляецца выключнай і крайняй мерай, якая можа быць прыменена толькі ў тых выпадках, калі існуе вострая пагроза міжнароднаму міру і бяспецы і поўнасцю вычарпаныя палітыка-дыпламатычныя магчымасці ва ўрэгуляванні канфлікту. Рэспубліка Беларусь заклікае ЗША і Вялікабрытанію неадкладна спыніць нанясенне ўдараў па Іраку. Мы таксама выказваем надзею, што Ірак неадкладна і ў поўным аб'ёме выканае ўсе адпаведныя рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН.

Рашэнне, якое адпавядае інтарэсам міжнароднага міру і бяспекі і імператывам міжнароднага права, павінна быць знойдзена ў рамках Савета Бяспекі ААН і строга выконвацца ўсімі членамі міжнароднай Супольнасці Нацыяў. Перш за ўсё, гэта тычыцца пастаянных членаў Савета Бяспекі ААН.

Нанясенне ракетна-бомбавых удараў не вырашае сутнасці праблемы, прыводзіць да ахвяраў сярод мірнага насельніцтва, дэстабілізуе сітуацыю ва ўсім рэгіёне.

Імкненне вырашаць праблемы міжнароднай бяспекі шляхам прымянення сілы не адпавядае рэзалюцыям Савета Бяспекі ААН, што выклікае глыбокую занепакоенасць Беларусі і сур'ёзна падрывае сістэму міжнароднай бяспекі і прававога мірапарадку.

**17 снежня 1998 года**

*(Працяг тэмы на стар. 5)*

## Загінула дзіця

**16 снежня каля 5-ці гадзінаў вечара ў г.Смаргоні адбылося дарожна-транспартнае здарэнне, у выніку якога загінула дзіця.**

Дзве жанчыны пераходзілі дарогу ў неўстаноўленым месцы, з імі была 10-гадовая дзяўчынка. Па нашых звестках, абедзве жанчыны былі ў нецвярозым стане. Адна з іх знаходзіцца цяпер у шпіталі ў стане сярэдняй цяжкасці. Дзяўчынка загінула на месцы. Яе маці ад шпіталізацыі адмовілася. Па словах сведкаў, яна была настолькі нецвярозая, што нават не ўсведамляла трагічнага выніку аварыі.

Кіроўца фургона ГАЗ-53, які ўчыніў наезд, быў затрыманы. Машына належыць Смаргонскаму жылкамунгасу.

**Андрэй ПАВЕРСКІ,**
*«Новая газета Сморгони»*

## Палякі дапамагаюць палякам

Журналісты польскай «Газеты Выборчай» арганізавалі ў Бела-Падлясцы (Беластоцкае ваяводства) акцыю збору харчавання для польскіх сем'яў, якія жывуць у Брэсцкай вобласці.

Газета звярнулася да чытачоў з прапановаю дапамагчы палякам Беларусі і сабраць «прадукты харчавання: муку, крупы, цукар, макароны, алей, маргарын, чай, а таксама прадукты для дзяцей, цукеркі, прысмакі і г.д.» Арганізатары разлічваюць, што будуць сабраныя дары для некалькіх соцень самых бедных беларускіх палякаў, і патрапяць яны «па адрасе» пры пасрэдніцтве польскага консульства ў Брэсце акурат да польскай Вігіліі — святочнай вячэры перад Раством Хрыстовым, якую каталікі ладзяць 24 снежня.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Іван Антановіч - грамадзянін Расіі

**Былы міністр замежных справаў Іван Антановіч сапраўды з'яўляецца грамадзянінам Расіі.**

Гэты факт пацвердзіўся на нядаўняй прэс-канферэнцыі МЗС Беларусі Урала Латыпава.

Як гэта Іван Іванавіч умудрыўся займаць высокую міністэрскую пасаду, не маючы беларускага грамадзянства, застаецца абсалютна незразумелым, бо закон аб дзяржслужбе гэта забараняе. Не змог гэтага растлумачыць і міністр Латыпаў. Ён зазначыў, што такое пытанне трэба задаваць не яму, а таму чалавеку, які прызначыў Антановіча міністрам. А прызначае ў Беларусі ўсіх чыноўнікаў — ад прэм'ера да старшыні райвыканкама толькі адзін чалавек — прэзідэнт Лукашэнка.

Мы хацелі пацікавіцца наконт грамадзянства ў самога Івана Антановіча, але звязацца з ім не ўдалося, бо ён цяпер знаходзіцца ў шпіталі лечкамісіі. Нагадаем, што, зняўшы Антановіча, прэзідэнт паабяцаў падабраць для яго добрае месца, маўляў, рана яшчэ Івана Іванавіча спісваць на пенсію, бо ён яшчэ можа паслужыць «дзеля дабра Айчыны». Хадзілі нават чуткі, што Антановіча накіруюць паслом у Жэневу, але гэта малаверагодна — на цёплае месца амбасадара ў Швейцарыі ёсць шмат іншых прэтэндэнтаў. Існуюць і іншыя версіі працаўладкавання былога шэфа МЗС. Напрыклад, не выключана, што Антановіча могуць прызначыць дэканам факультэта міжнародных зносінаў БДУ ці нават рэктарам новай навучальнай установы, створанай на базе гэтага факультэта. Па словах людзей, якія добра ведаюць былога міністра, Антановіч можа пагадзіцца заняць любую пасаду, толькі б застацца пры ўладзе.



*Беларускім МЗС кіраваў грамадзянін Расіі.*

Іван Антановіч не адзіны высокапастаўлены чыноўнік, які не мае беларускага грамадзянства. Існуюць вялікія сумненні наконт таго, ці ёсць беларускі пашпарт, напрыклад, у намесніка старшыні КДБ Леаніда Ерына, якога Аляксандр Лукашэнка прыкладна два гады таму перацягнуў у Мінск з Масквы, дзе той працаваў у абласным упраўленні ФСБ. А каб атрымаць беларускае грамадзянства, трэба не менш сямі гадоў пражыць у Беларусі. Высветліць грамадзянінам якой краіны з'яўляецца сп.Ерын, нам пакуль не ўдалося, бо ў прэсслужбе КДБ гаварыць на гэтую тэму з нашым журналістам катэгарычна адмовіліся. Не выключана, што і ў некаторых іншых чыноўнікаў не ўсё ў парадку з грамадзянствам.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*Энергетыка*

***Трэці энергаблок Чарнобыльскай АЭС спынены на прафілактычны рамонт.***

*Адпачынак*

***Газета «Рэспубліка» раіць грамадзянам Беларусі ехаць адпачываць не на Канары, а ў Югаславію. А можа лепш рвануць у Ірак? Там цяпер самая гарачыня.***

*Пажар*

***У вёсцы Даматканавічы Клецкага раёна згарэла бібліятэка. У выніку пажару страчана 5 тысяч кніжак.***

**Наступны нумар газеты НАВІНЫ выйдзе ў сераду, 23 снежня**

## Перадавікоў – на дошку

**У Навагрудку падчас рэканструкцыі цэнтральнай плошчы Леніна паклалі 20 тысяч квадратных метраў тратуарнай пліткі. Самога Леніна замянілі на больш сучаснага. Цяпер вырашылі пабудаваць яшчэ і новую «дошку гонару».**

Вызначана квота: штогод на дошцы павінна паяўляцца не больш за 20-25 новых «перадавікоў народнай гаспадаркі». Прычым прадугледжана, што сярод іх могуць апынуцца людзі не толькі з дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, але і з прыватных фірмаў. Фатаграфавацца яны павінны за кошт сваіх арганізацыяў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Трагедыя на дарозе

**Два чалавекі загінулі, трое атрымалі раненні ў выніку дарожна-транспартнага здарэння, якое адбылося ў аўторак на ўчастку трасы Мінск—Гомель у Жлобінскім раёне.**

«Мерседэс-260», у якім знаходзіліся двое, выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з «Фольксвагенам-гольфам». За рулём «Фольксвагена» быў прыватны прадпрымальнік са Жлобіна, які вёз у Гомель двух супрацоўнікаў Жлобінскага міжраённага аддзялення Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў. У выніку сутыкнення вадзіцель і адзін з пасажыраў «Фольксвагена» загінулі.

*БелаПАН*

## Чарга за прэсай

**Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў пайшла ў масы з праўдзівым словам. У мінулы аўторак маладыя палітыкі арганізавалі бясплатную падпіску на незалежную прэсу сярод рабочых Мінскага падшыпнікавага завода.**

Стаўшы пад канец змены ля прахадной, актывісты БАМП прапаноўвалі працаўнікам завода падпісацца на выбар на адну з чатырох газетаў: «Навіны», «Народную волю», «Свободные новости», «Беларускую маладзёжную». Пераважная большасць рабочых успрыняла ініцыятыву БАМП з энтузіязмам, што не дзіўна: выдаткі на падпіску асацыяцыя цалкам брала на сябе. Такім чынам, прыблізна 300 рабочых у І квартале наступнага года будуць атрымліваць незалежную прэсу. Акрамя таго, асацыяцыя аформіла падпіску для 10-ці сталічных бібліятэк, якім улады не выдзелілі грошай на беларускую незалежную прэсу.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Хто задушыў старшыню?

**У аўторак, 15 снежня, у сваёй кватэры загінула А.Кобзырава — старшыня прафкама Баранавіцкага бавоўнянага аб'яднання.**

Эксперты ўстанавілі, што смерць наступіла ад удушша. Хто задушыў 57-гадовую жанчыну, невядома. Як паведаміла газета «Звязда», А.Кобзырава жыла адна ў аднапакаёвай кватэры. Той факт, што яна адчыніла дзверы, дае падставы думаць, што гэтае злачынства мог учыніць хтосьці з яе знаёмых. Ва ўсякім разе, следства адпрацоўвае і такую версію. У кватэры быў парадак, але прапала золата і некаторыя рэчы.

**С.С.**

## Вартаўнікоў звязалі

**15 тон масла і сыроў былі скрадзеныя з халадзільнага сховішча ў Буда-Кашалёўскім раёне Гомельскай вобласці.**

Чацвёра рабаўнікоў, пагражаючы фізічнай расправай, звязалі трох вартаўнікоў, а потым сапсавалі навясны замок. Мяркуецца, што здабычу яны вывезлі на КамАЗе. Мясцовыя праваахоўныя органы ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «разбойны напад».

*БелаПАН*

## Яйкі знайшлі ў Клімавічах

**На мяжы з Расіяй у райцэнтры Клімавічы Магілёўскай вобласці канфіскавалі 300 тысяч курыных яек.**

Дэфіцытны прадукт спрабавалі вывезці ў Расію. Гэты факт прагучаў на нарадзе абласнога надзвычайнага штаба, дзе падводзіліся вынікі барацьбы з «кантрабандыстамі». У памяшканні вісеў плакат: «Абарона спажывецкага рынку — найважнейшая задача бягучага моманту». Але, куды знікае ўсё сканфіскаванае — «штабісты» не сказалі. Паліцы нашых крамаў як былі, так і застаюцца беднымі. Так што не спяшайцеся ехаць у Клімавічы, яек там няма.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



*Рабочыя дарабляюць плакат на фасадзе Мінскага педагагічнага універсітэта.*

# Наручнікі для жанчыны

**На мінскіх рэчавых рынках неспакойна. Амаль ніхто з прадпрымальнікаў, якія гандлююць на «Дынама» ці ў «Ждановічах», не ведае, ці змогуць яны выйсці на працу пасля 1 студзеня 1999 года.**

Надзвычай высокія кошты арэнды гандлёвых месцаў, устаноўленыя адміністрацыяй рынкаў на наступны год, не дазволяць 90 працэнтам гандляроў нават пакрыць страты, не кажучы ўжо пра прыбытак. Ад гэтага могуць пацярпець шмат жыхароў сталіцы, якія з-за адносна невялікіх даходаў апранаюцца сёння выключна на рэчавых рынках.

Справа ў тым, што ўсе дамовы арэнды гандлёвых месцаў заключаюцца ва «ўмоўных адзінках» (г.зн. у доларах ЗША), якія потым пералічваюцца ў беларускія рублі. Праблема атрымалася менавіта з-за курса, па якім трэба рабіць пералік. Да 7 снежня гэтага года дзейнічаў адзіны афіцыйны курс Нацыянальнага банка, які быў у два-тры разы ніжэйшы за рэальны. Але цяпер Нацбанк прапанаваў яшчэ адзін курс, які бліжэй да рэальнага і складае на сённяшні дзень 220 тысяч рублёў. Такім чынам, арэнда гандлёвых месцаў на рэчавых рынках адразу падаражэла больш чым у два разы.

Па словах Кацярыны Навумовіч, намесніка старшыні прафсаюза прадпрымальнікаў, 90 працэнтаў гандляроў проста не ў стане аплачваць такую арэнду. З 1 студзеня адно гандлёвае месца на рынку «Дынама» будзе каштаваць ад 900 тысяч да 1,5 мільёна рублёў у дзень. Месячная плата за месца ў «Жда-новічах» — больш за 17 мільёнаў. Ясна, што гэтыя сумы давядзецца кампенсаваць пакупнікам у выглядзе дадатковай платы за тавары.

Здавалася б, не хочаш — не гандлюй. Але тады толькі на адным рынку «Дынама», па словах К.Навумовіч, без працы застануцца больш за 4 тысячы чалавек. Куды пойдуць гэтыя людзі, страціўшы магчымасць зарабляць на рынку? На заводы і ў навукова-даследчыя інстытуты, адкуль яны ў свой час збеглі, каб зарабіць грошы для сябе і сваіх блізкіх? Дарэчы, амаль у кожнага, хто гандлюе на рынку, ёсць сям'я — два-тры чалавекі, якія фінансава залежаць ад «кармільца».

Таму прадпрымальнікі збіраюцца змагацца за свае правы. Як паведаміла Кацярына Навумовіч, ужо сабрана больш за тры тысячы подпісаў супраць «беспадстаўнага» падвышэння коштаў на арэнду. У бліжэйшы час прафсаюз прадпрымальнікаў збіраецца падаць заяўку на шэсце. Магчымыя і забастоўкі.

Апроч іншага, прадпрымальнікі незадаволеныя тым, як паводзяць сябе на рынку супрацоўнікі праваахоўных органаў. Па словах гандляроў, ад іх цярпяць не толькі яны самі, але і звычайныя пакупнікі.

Вось толькі некалькі эпізодаў, што здарыліся на мінскім рэчавым рынку «Дынама» за апошні тыдзень.

Аляксандр Шуляковскі, 46-гадовы рабочы-будаўнік, прыйшоў на рынак у гэты аўторак разам з дачкой, каб абмяняць боты — памер аказаўся занадта вялікі для дзяўчыны. 26-гадовы Ігар З. даў чалавеку тэлефон прыяцеля, які мог дапамагчы яму. Гэтага было дастаткова, каб імі зацікавілася міліцыя.

Па словах Аляксандра Шуляковскага, калі ён ужо сыходзіў з рынку, падбеглі два хлопцы ў цывільным і запрасілі яго «прайсці» разам з імі. Калі Шуляковскі адмовіўся, яго схапілі і зацягнулі ў аддзяленне міліцыі, што знаходзіцца там жа на «Дынама».

А.Шуляковскі расказаў, што ў пастарунку яго пераконвалі «прызнацца», што ён набыў боты ў Ігара З. за валюту. Пратрымаўшы Шуляковскага тры гадзіны і нічога ад яго не дабіўшыся, міліцыянты склалі на яго пратакол «за нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы». Больш за дзесяць чалавек, што прысутнічалі пры затрыманні Шуляковскага, сведчаць, што той не сказаў нічога, што магло б быць успрынята як лаянка. Але міліцыянты былі вельмі пакрыўджаныя на рабочага: *«З-за яго мне плявалі ў спіну!»* — сказаў мне адзін з удзельнікаў аперацыі.

Паралельна з Шуляковскім міліцыя пачала «трэсці» Ігара З.: прызнайся, што прадаў боты за валюту. Хлопец меў пры сябе ў той момант 400 долараў. Па ягоных словах, супрацоўнікі міліцыі прапанавалі яму выбар: ці яны забіраюць валюту, ці ён піша заяву, што прадаў А.Шуляковскаму боты за дваццаць «баксаў». Ігар выбраў другі варыянт. Цяпер і яго, і «пакупніка» чакае адказнасць за незаконныя валютныя аперацыі.

Найдзіна Аксана, 30 гадоў, прадпрымальнік «з вялікім стажам», гандлюе на «Дынама». У суботу, 12 снежня, да яе прыйшлі тыя ж «хлопцы ў цывільным» і звінавацілі прызнацца, што яна парушыла закон і прадала рэчы за валюту. Аксана паказала ім свае кішэні, каб пераканаць апераў, што ніякай валюты ў яе няма.

Тады яе павалаклі ў аддзяленне міліцыі. Па словах дзяўчыны, ёй пырснулі ў твар з газавага балончыка, надзелі наручнікі, і чатыры чалавекі волакам зацягнулі яе ў пастарунак. Там ужо знаходзіліся яе пакупнікі, якіх таксама пераконвалі прызнацца, што яны набылі тавар за валюту.

Аксана Найдзіна сказала, што яе не выпускалі на працу трох гадзінаў. Потым выпусцілі, не склаўшы ніякага пратакола. На развітанне папярэдзілі, каб нікуды не скардзілася.

Яшчэ адну гандлярку, Валянціну К., гадоў каля 40, у той жа дзень завялі ў памяшканне адміністрацыі рынку, выклікалі дзвюх жанчынаў для вобыску, якія распранулі яе літаральна да трусоў. Шукалі валюту. Калі нічога не зайшлі, то *«прынеслі прабачэнні, усміхнуліся і пайшлі»*.

Прадпрымальнікі абураюцца: *«Дзяржава дазволіла нам тут гандляваць, мы плацім падаткі, а яны атрымліваюць нашыя грошы і так здзекваюцца над намі. За што?»*

*«Вы паглядзіце,* — гаворыць другая жанчына, — *як апранутыя гэтыя супрацоўнікі міліцыі: скураныя «дублёнкі», норкавыя шапкі. Я працую, каб пракарміць сям'ю, і нічога не маю, а яны толькі нажываюцца на мне. Дзе ж справядлівасць?»*

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



# Дэпутату Клімаву «накінулі тэрмін»

**Дэпутат і прадпрымальнік Андрэй Клімаў, які знаходзіцца ў следчым ізалятары ўжо 10 месяцаў, чакае судова-медыцынскай экспертызы — яна зробіць выснову, ці можна і надалей трымаць яго ў камеры. Тым часам пракуратура працягнула тэрмін утрымання А.Клімава пад вартай.**

Нагадаем, што ў канцы жніўня Андрэй праляжаў тры тыдні ў турэмным шпіталі з захворваннем сэрца. Адразу пасля гэтага яму значна палепшылі ўмовы ў камеры, і неўзабаве замянілі следчага (відаць, спадзеючыся, што гэтая мера станоўча адаб'ецца на стане ягонага здароўя). Але здароўе засталося кепскім, і месяц таму рэспубліканская пракуратура загадала новаму следчаму, капітану Міхалу Алёшкіну, прызначыць судова-медыцынскую экспертызу. Яна вызначыць, ці можна трымаць Клімава за кратамі.

Праўда, рашэнне экспертаў будзе мець толькі рэкамендацыйны характар. І калі ўладам не хочацца выпускаць вязня, нягледзячы на хваробы, дык яны проста не зважаюць на рэкамендацыі медыкаў. А ўвогуле, па нашых законах, без суда чалавек можа знаходзіцца за кратамі паўтара года.

Пакуль жа, па нашай інфармацыі, справа Клімава пракуратура не рухаецца наперад. Дэпутат Андрэй Клімаў па-ранейшаму не дае ніякіх паказанняў, паколькі яго трымаюць пад вартай насуперак Канстытуцыі.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# «Газель» з Ліды

**На лідскім эксперыментальным заводзе «Нёман» сабрана першых пяць мікрааўтобусаў расійскай маркі «Газель». Яны разлічаны на перавозку адзінаццаці пасажыраў. Адзін з іх адпраўлены на выпрабаванні ў лабараторыю транспартных сродкаў Беларускай політэхнічнай акадэміі.**

Выпрабаванні павінны закончыцца да Новага года. Калі яны дадуць станоўчы вынік, пачнецца вывучэнне ўнутрыбеларускага рынку. На заводзе разумеюць, што прадаваць мікрааўтобусы ўдасца толькі тады, калі яны будуць каштаваць танней, чым расійскай зборкі. З аўтазаводам ГАЗ з Ніжняга Ноўгарада заключанае пагадненне аб супрацоўніцтве, брыгада лідскіх рабочых прайшла там практыку.

На прадпрыемстве спадзяюцца, што мікрааўтобусы маглі б купляць прыватныя фірмы і прадпрымальнікі, у якіх ёсць чым плаціць. Аўтобусы расійскай маркі «ЛіАЗ», якія цяпер збіраюць на лідскім заводзе, патрэбны ў краіне, але іх не купляюць, бо аўтапаркі не маюць грошай. А з наступнага года ён будзе каштаваць яшчэ даражэй — 7,5 мільярдаў рублёў. Сёлета з пачатку года на заводзе было сабрана толькі 38 аўтобусаў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Разам не збірацца

У нашым Астравецкім раёне мясцовае начальства чамусьці як агню баіцца, калі людзі збіраюцца разам. Вось свежы прыклад. Дэпутат Астравецкага раённага Савета Іван Крук вырашыў арганізаваць сустрэчу са сваімі выбаршчыкамі і дзеля гэтага загадзя, за два тыдні да сустрэчы, запрасіў у мясцовай вертыкалі залу Дома культуры.

На сустрэчу з дэпутатам сабралася шмат народу. Аднак у залу немагчыма было патрапіць, яна была занятая школьнікамі: акурат у гэты вечар для іх тут наладзілі дыскатэку. Дзеля гэтага адкруцілі ад падлогі і вынеслі з залы ўсе крэслы. І гэта нягледзячы на тое, што па суседству з глядзельнай залай знаходзіцца танцавальная зала.

Выбаршчыкі абураліся цынізмам начальства, але давялося праводзіць сустрэчу ў іншым памяшканні. Каб патрапіць туды, прыйшлося людзям прайсці праз увесь гарадок. Дзякаваць Богу, што гэтае падарожжа не было расцэненае як несанкцыяванае шэсце.

**Мікалай УЛАСЕВІЧ,**
*дэпутат Варанянскага сельскага Савета, Астравецкі раён*

## На профсоюзных активистов натравливают милицию

Хочу рассказать читателям газеты о том, как у нас в Бресте начальство пытается запугать профсоюзных активистов.

В начале этого года на заводе «Брестсельмаш» была создана организация Свободного профсоюза. В течение всего года мы проводили разъяснительную работу и отстаивали права рабочих. Меня избрали председателем профсоюзной организации. Наш авторитет среди рабочих рос. Кое-кому это не давало покоя. К примеру мой начальник Михаил Босяков неоднократно принимал меры, чтобы уволить меня с работы, и продолжает заниматься этим по сей день. Ситуация с моим увольнением уже превращается в смешную.

9 декабря по решению рабочих на заводе была проведена предупредительная забастовка. Мы выдвинули требования президенту А.Лукашенко и администрации завода: *1. Минимальную зарплату — не ниже 100 долларов; 2. Зарплате — статус первоочередного платежа; 3. Профсоюзам — свободный доступ на телевидение и радио; 4. Температуру в цехах поддерживать не ниже 10 градусов; 5. Вывесить расценки на обрабатываемые детали; 6. Обнародовать зарплату руководителей завода; 7. Предупредить начальника М.Босякова о недопустимости преследования председателя Свободного профсоюза Г.Самойленко.*

10 декабря 1998 г. по приглашению администрации на завод прибыл участковый милиционер и составил на меня протокол о проведении несанкционированного митинга. Я не согласился, что это был митинг. Тогда меня повезли к начальнику Ленинского РОВД г.Бреста. Я сумел убедить его, что был прав. Меня отпустили, и через 45 минут я вновь вернулся на завод и доложил своему начальнику М.Босякову о том, что я приступаю к работе. От удивления он ничего вымолвить не смог. Мой начальник, вероятно, думал, что расстался со мной навсегда.

**Геннадий САМОЙЛЕНКО,**
*г.Брест, завод «Брестсельмаш»*

## Турэмная ідылія

У ГАЗЕТАХ і па тэлебачанні часта расказваюць пра турмы ў заходніх краінах, дзе вязням жывецца часам лепей, чымсьці нашым свабодным грамадзянам у хрушчоўках ды інтэрнатах. Памятаю, як «рэкламаваліся» турмы шведскія, нямецкія, швейцарскія. Нядаўна па расейскім тэлебачанні паказвалі сюжэт пра толькі што пабудаваную суперсучасную турму ў Іспаніі. Мэбляваныя пакоі для інтымных спатканняў вязняў з жонкай ці каханкай. Такіх у нас і ў гатэлях, напэўна, не ўбачыш. І ўсякія іншыя выгоды і зручнасці, каб чалавек не адчуваў сябе замкнутым у пастцы і зусім не азвярэў. Ну, але ж гэта Іспанія! Там без дыктатуры ўжо 20 гадоў жывуць. Стандарты жыцця — іншыя.

Ёсць і бліжэйшы прыклад. Гэтай восенню адчынілі сучасную турму ў Польшчы. Там без камуністаў 9 гадоў жывуць і недзе столькі ж будавалі турму. У першыя дні было сапраўднае паломніцтва, чарга звычайных грамадзян стаяла, каб агледзець новыя памяшканні. Тут табе камеры на двух, у кожнай тэлевізар, душ, прыбіральня. Майстэрні, трэнажорныя залы, тэніс, бібліятэка...

Адзін наш дэмакратычны дзеяч з Магілёва апавядаў сёлета, як трапіў за ўдзел у нейкай акцыі на пяць сутак за краты. Як ён, абазнаны ў розных праваабарончых справах, пачаў «качаць свае правы» начальніку турмы. Вялізных высілкаў яму каштавала, каб у камеры паявіўся кавалачак мыла з ручніком, туалетная папера і аркушык з надрукаванымі правамі і абавязкамі зняволенага. Гэтую паперчыну начальнік трымаў у сябе у сейфе як сакрэтны дакумент і ніяк не жадаў паказваць яго таму, каго гэты дакумент непасрэдна датычыў.

Паколькі ў нашай краіне афіцыйнай палітыкай з'яўляецца прыхарошванне рэчаіснасці дзе толькі можна, я не здзівіўся «турэмнаму» сюжэту гродзенскага тэлебачання, паказанаму ў суботній адпачынкавай праграме. Нам паказалі, як у невялікім памяшканні гродзенскай турмы стаяць усутыч двух'ярусныя ложкі чалавек на 10 ці болей, усярэдзіне ледзьве хапае месца для стала. Цукар насыпаюць адмысловай лыжкай накшталт напарстка: 25 грамаў у дзень тым, хто мае працу (яе хапае 30% зняволеных), 20 — беспрацоўным, 6 — тым, хто чамусьці адмовіўся ад працы. Паказалі закануракк турэмнай крамкі, дзе, аказваецца, па старой цане можна купіць пачак гарбаты або цыгарэт.

Каментар быў лагодны: чаго ж не сядзець, калі такія неблагія ўмовы? І чай з цукрам, і міска кашы, і тытунец ёсць... «Вельмі прыстойныя ўмовы», — кажа каментатар, прычым — жанчына. Ёй і ў галаву не прыходзіць, што трымаць людзей у такіх умовах недапушчальна для цывілізаванай краіны. Праўда, наш прэзідэнт сказаў адночы, што сваю краіну ён не павядзе за цывілізаваным светам.

**Аляксандр БРАТКОЎСКІ,**
*г.Гродна*

# Якой павінна быць газета?

***Шаноўныя чытачы! Мы зацікаўленыя ў тым, каб газета НАВІНЫ максімальна адпавядала патрэбам нашых чытачоў. Якой павінна быць газета з Вашага пункту гледжання? Што Вас цікавіць у першую чаргу? Якой інфармацыі ў нас не хапае? Мы чакаем Вашых адказаў на гэтыя і іншыя пытанні. Давайце разам зробім газету лепшай.***

**Рэдакцыя**

*Нас цікавіць думка кожнага чытача*

**1. Якім чынам Вы звычайна атрымліваеце НАВІНЫ?**
- ☐ па індывідуальнай падпісцы
- ☐ выпісвае Ваша прадпрыемства
- ☐ купляеце ў кіёску
- ☐ набываеце ў прыватных распаўсюднікаў
- ☐ атрымліваеце ад сваякоў, знаёмых
- ☐ іншым чынам (якім?)

**2. Як Вы чытаеце газету?**
***(калі ласка, пазначце толькі адзін адказ)***
- ☐ чытаеце ўсе тэксты
- ☐ чытаеце большасць тэкстаў
- ☐ чытаеце толькі асобныя артыкулы
- ☐ толькі праглядаеце

**3. Колькі чалавек разам з Вамі чытаюць нумар газеты?**
- ☐ толькі Вы самі
- ☐ яшчэ ........ чалавек

**4. Чаму Вы чытаеце НАВІНЫ?**
- ☐ каб ведаць пра падзеі ў Беларусі
- ☐ каб ведаць пра падзеі ў свеце
- ☐ бо гэта незалежнае ад уладаў выданне
- ☐ газета мне проста цікавая
- ☐ чытаю па звычцы
- ☐ па іншых прычынах (якіх?)

| 5. Якой інфармацыі ў газеце шмат, а якой не хапае? | Шмат | Мала | Дастаткова |
|---|---|---|---|
| Палітычныя навіны і каментары | | | |
| Эканамічныя навіны і каментары | | | |
| Інфармацыя з рэгіёнаў Беларусі | | | |
| Аналітычныя матэрыялы | | | |
| Міжнародная інфармацыя | | | |
| Інфармацыя пра Расію | | | |
| Інфармацыя пра краіны СНД | | | |

| Якой інфармацыі ў газеце шмат, а якой не хапае? | Шмат | Мала | Дастаткова |
|---|---|---|---|
| Гісторыя | | | |
| Культура | | | |
| Рэлігійная тэматыка | | | |
| Свецкая хроніка | | | |
| Інтэрв'ю з вядомымі людзьмі | | | |
| Спорт | | | |
| Аўтамабілі | | | |
| Камп'ютэры, Інтэрнэт | | | |
| Здарэнні, крымінал | | | |
| Лісты чытачоў | | | |
| Ілюстрацыі | | | |

**6. На якія яшчэ тэмы мала інфармацыі ў газеце?**
***(назавіце)***

______________________

**7. Якія яшчэ газеты Вы чытаеце рэгулярна?**

______________________

**Адкажыце, калі ласка, на некалькі пытанняў пра сябе:**

**8. Ваш пол**
- ☐ Мужчына
- ☐ Жанчына

**9. Колькі Вам гадоў?**

______________________

**10. Якая ў Вас адукацыя?**
- ☐ пачатковая
- ☐ сярэдняя
- ☐ няскончаная вышэйшая
- ☐ вышэйшая тэхнічная
- ☐ вышэйшая гуманітарная

**11. Ваш цяперашні занятак**
- ☐ вучань, студэнт
- ☐ дзяржаўны служачы
- ☐ работнік сферы адукацыі, культуры, навукі, медыцыны, права
- ☐ вайсковец, супрацоўнік праваахоўных органаў
- ☐ уладальнік ці саўладальнік фірмы, індывідуальны бізнес
- ☐ работнік фінансавай сферы
- ☐ работнік сферы гандлю і паслугаў
- ☐ работнік транспарту, сувязі
- ☐ работнік фізічнай працы
- ☐ сельгасработнік, фермер
- ☐ пенсіянер
- ☐ хатняя гаспадыня
- ☐ не працую
- ☐ іншае

**12. Якую пасаду Вы займаеце?** ***(па жаданні)***

______________________

**13. Якія палітычныя партыі Вы падтрымліваеце?**

______________________

**14. Да якой катэгорыі Вы сябе адносіце:**
- ☐ высоказабяспечаныя
- ☐ забяспечаныя
- ☐ сярэднезабяспечаныя
- ☐ малазабяспечаныя

**15. Як часта Вы бываеце за мяжой?**

______________________

**16. Ці ёсць у Вас:**
- ☐ аўтамабіль
- ☐ камп'ютэр (на працы ці дома?)
- ☐ відэамагнітафон
- ☐ доступ у Інтэрнэт

**Шаноўныя чытачы! Запоўніўшы анкету, укладзіце яе ў паштовую капэрту і адпраўце на наш новы паштовы адрас: 220034, г.Мінск, вул. Змітрака Бядулі, 6-47. Рэдакцыя газеты НАВІНЫ.**

### Европа пошла на уступки?

Российская газета «Сегодня» пишет о том, что конфликт с «Дроздами» близок к разрешению. Тем временем, «Новые известия» считают, что Европа пошла на уступки в большей степени, нежели Минск. Фактически послам позволено сохранить относительно хорошую мину при плохой игре: свои резиденции в конечном счете им придется покинуть. В то же время происшедшее можно расценивать как попытку ЕС и Беларуси сделать шаги навстречу друг другу и наконец наладить нормальные взаимоотношения. Удастся ли это, станет ясно уже в будущем году.

### Продуктов нет

Российские газеты отмечают, что в Беларуси впервые за последние семь лет появились талоны на продукты питания. По 7 штук яиц выдали сотрудникам Национальной телерадиокомпании, по 2 десятка — депутатам парламента. Мэр Минска В.Ермошин официально поддержал идею введения на предприятиях «столов заказов». В продовольственных магазинах стоят большие очереди за маслом, мясом, сметаной, сыром и даже молоком, что резко усилило недовольство граждан политикой властей.

Не исключено, что перетряска кадров в высших управленческих структурах будет продолжена. А.Лукашенко установил новый срок для стабилизации потребительского рынка — до конца декабря. Если эта задача опять окажется невыполненной, в правительстве республики почти наверняка последуют новые кадровые изменения — вплоть до отставки нынешнего премьер-министра Сергея Линга.

Российские СМИ полагают, что уже в ближайшем будущем власти будут вынуждены свести государственное вмешательство в ценовое регулирование к минимуму, тем более, что, по словам А.Лукашенко, возможности для этого почти исчерпаны. Уже раздаются голоса о том, что пусть продукты стоят дорого, но они будут в магазинах. Однако, если продовольствие станет недоступным для ряда категорий населения, вопрос может перейти из разряда экономических в политическую плоскость.

*Российская пресса о Беларуси*

# Белорусский путь к процветанию



**Очереди за продуктами в Минске стоят в любую погоду.**

### Кандидат от Титенкова

Московская «Независимая газета» опубликовала материал о возможных президентских выборах в Беларуси в 1999 году. Газета напоминает, что А.Лукашенко перекроил конституцию, увеличив себе срок президентства до 2001 года. Этот маневр до сих пор оспаривается оппозицией, и чем ближе лето 1999 года, тем настойчивее звучит тема президентских выборов. Президиум Верховного Совета 13-го созыва во главе с председателем С.Шарецким, объединяющим депутатов, не признающих итогов референдума 1996 года, заявил, что он готов назначить дату очередных президентских выборов. Не совсем, правда, понятно, каким образом будет реализована эта идея, но, тем не менее, оппозиция уже начала выдвижение кандидатов. Одним из них является руководитель теневого правительства, один из лидеров Объединенной гражданской партии Г.Карпенко. На днях о своем желании баллотироваться на пост президента заявил и бывший премьер-министр М.Чигирь.

Сторонники нынешнего президента Беларуси тоже втянулись в борьбу. «Независимая газета» отмечает, что управляющий делами президента И.Титенков выступил в одной из газет с передовой статьей, в конце которой сделал следующий вывод: «На сегодняшний день бесспорно одно, Лукашенко стал истинным лидером нации, способным вывести страну на путь процветания, обеспечив достойную жизнь человеку-труженику. В оппозиции сейчас нет и не просматривается в обозримом будущем своего альтернативного кандидата, кого можно было бы поставить рядом с Лукашенко».

«Московские новости» опубликовали 16 декабря большую статью под заголовком

### «Узники президента Лукашенко»

Среди прочих громких дел, автор пишет о судьбе бывшего министра сельского хозяйства и продовольствия Василия Леонова. В свое время В.Леонов, будучи в должности секретаря Могилевского обкома партии, давал согласие на назначение Александра Лукашенко директором совхоза «Городец». Лукашенко даже называл его своим учителем. Прошло время. Директор совхоза стал президентом страны и назначил своего "учителя" министром.

Что было потом, видела вся страна. Леонова арестовали в рабочем кабинете, снимая арест и заковывание рук 59-летнего министра телекамерой, чтобы в тот же вечер показать всему народу.

Поначалу Леонову готовы были инкриминировать все мыслимое и немыслимое, включая организацию убийства главного могилевского контролера Миколуцкого и участие в заговоре против президента. В пользу последнего аргументы найти при желании было можно. Леонов, как и положено умному человеку и опытному администратору, вовремя понял, что государственный корабль идет не вполне верным курсом. Оппозиция предлагала ему уйти из правительства и примкнуть к ней. Но Василий Севастьянович до конца верил, что ему удастся переубедить своего «ученика».

Сейчас Леонов уже год расплачивается за свой идеализм в тюрьме. Там он встретил и свое 60-летие. Несмотря на целый букет болезней, он демонстративно отказывается просить о переводе его в больницу, внимательно изучает предъявленные ему обвинения. От них, как говорят, осталось немногое: бывшему министру инкриминируется получение взятки от бывшего председателя колхоза «Рассвет» Старовойтова в виде изготовленного колхозными умельцами дачного мебельного гарнитура (около тысячи долларов) и вовсе уже неприличное обвинение в еженедельном получении дани с колхоза в виде 40 килограммов мяса и такого же количества рыбы. Вряд ли высокопоставленный чиновник опустился до того, чтобы лично продавать на рынке такое количество съестного, а поглотить всю эту снедь не под силу не то что рядовому министру — но и президенту со свитой.

*Подготовил*
**Андрей ПРОКОПОВИЧ**

# Доступ в закрома вновь по талонам

*Белорусские власти в очередной раз решают проблемы «стабилизации» потребительского рынка за счет самих потребителей*

*«В последнее время на потребительском рынке г. Минска сложилась напряженная ситуация с обеспечением населения товарами повседневного спроса. Торговые предприятия все сильнее ощущают недопоставку товаров первой необходимости. Не принимается должных мер по удовлетворению на них спроса населения».*

Это строки не из аналитической записки оппозиции, а из преамбулы одного из решений Минского горисполкома, касающегося создания стабилизационного валютного фонда. Как явствует из текста, фонд *«предназначен для обеспечения закупки продовольственных товаров критического импорта»*. Судя по опустевшей валютной казне и продовольственным прилавкам, под понятие *«критического импорта»* подпадает все, что можно съесть. Наполнять же фонд (читай — казну) должны все предприятия и организации города «независимо от форм собственности».

В решении также записано, что *«при невозможности выделения валютных средств, предприятия и организации поставляют городу продовольственные товары критического импорта в количестве, эквивалентном сумме, определяемой горисполкомом»*.

Еще дальше пошли власти Фрунзенского района столицы, которые определили, что если предприятия не могут предоставить валюту или продукты в стабилизационный фонд, они обязаны *«перечислить спонсорские средства в рублях на закупку и приобретение продовольственных товаров критического импорта из расчета одной минимальной заработной платы на одного работающего»*. Таким образом пополнять продовольственные прилавки власти собираются за счет тех, кто к ним же и придет.

Сегодня Минск начинает постепенно превращаться в Москву 70-80 годов, куда сначала свозили продовольствие со всех концов СССР, которое затем развозилось по городам и весям в «колбасных» электричках. Наши власти тоже прекрасно понимают, что, удержав от "голодного бунта" столицу, они тем самым смогут удержать под контролем ситуацию и в стране. Кого интересует то, что в провинции уже давно сливочное масло, сахар, яйца и другие продукты питания отпускаются по спискам. Главное то, что, глядя БТ, народ в курсе — партия и генеральный секретарь делают все, чтобы облегчить его страдания.

Тем более, что во всем случившемся виноваты не власти, а Россия, оппозиция и «нячэсныя» бизнесмены и журналисты. Пока народ безмолвствует, «закрома Родины» будут и дальше пополняться только новыми идиотскими решениями, дивиденды от которых будут получать лишь власть имущие.

Правда, власти тоже не должны особо обольщаться. Дело в том, что переход от торговли к административному распределению товаров, о необходимости чего уже заявил министр торговли, обычно приводит к резкому увеличению потребности в них. Чтобы убедиться в этом, достаточно вспомнить торговлю табаком и алкоголем по талонам, когда пенсионерки были самыми регулярными их покупательницами. А в Витебске, например, где карточки на масло уже введены, администраторы от торговли с ужасом увидели, что потребность в нем подскочила в два раза.

Уменьшающийся в размерах общественный пирог можно делить долго, но не до бесконечности. Равно как и собирать голодный народ в тысячные очереди: решения, которые там принимаются, всегда требуют «прямого действия».

**Александр ГАЛЬКЕВИЧ, Константин СКУРАТОВИЧ**

*Польская полиция задержала крупную партию героина*

# Двое наших в наркосиндикате

**В начале этой недели польским полицейским из управления по борьбе с наркотиками удалось задержать крупную партию героина.**

Наркотики везли с Ближнего Востока в Польшу и дальше на запад — в Германию и Голландию. Среди задержанных в ходе операции были двое граждан Беларуси: 34-летний житель Минска Михаил О. (при его аресте в варшавской гостинице «Метрополь» при нем было найдено 1,5 кг героина) и еще один белорус 42-летний Василий Х., который путешествовал с гражданином Азербайджана на автокаре с российскими номерами, принадлежащем турецкой фирме. В автокаре под упаковками с кофе польские полицейские обнаружили 30 кг кристаллического героина, так называемого «бурого сахара». Сделанные анализы показали, что в автокаре и ранее многократно перевозились наркотики. Организаторами «мероприятия» по контрабанде наркотиков с участием международной «команды» оказались молодые поляки, которые тоже были задержаны в Краковском воеводстве.

Героин не принадлежит к числу популярных наркотиков в Польше — из-за его дороговизны. Грамм героина стоит в Польше 300 злотых, тогда как грамм амфетомина (в основном «отечественного производства») — 50-60 злотых.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

